№ 1 Студзень 1923 год. Год III.

# МАЛАДОЕ ЖЫЦЬЦЁ

Часопіс беларускае моладзі.



*

* *

*НОВЫ ГОД! Цябе чакаем,*
*Бо нас пэўна ня мінеш...*
*А вось толькі мы ня знаем,*
*Што для нас ты прынясеш?*

*Ці той самы зьдзек, няволю,*
*Што нас мучыць доўгі час?*
*Ці свабоду, лепшу долю?*
*Ці пацешыш бедных нас?*

*І можа, Ты, урэшцы зможаш,*
*Спыніць крыўды і усе зьдзекі,*
*І нам выйсьці дапаможаш,*
*Ужо на волю з пад апекі?*

*Можа, Ты, у нашай старонцы*
*Новы лад ужо завядзеш?*
*Мо' разгоніш хмары з сонца,*
*Жыцьцё новае пачнеш?*

# Нашым крытыкам.

Ня часта выходзіць наша часопісь, але гэта відаць яшчэ больш дае права на сур'ёзную крытыку. Бязумоўна, бяпрыхільны, правільны крытычны разгляд нашае працы, з усімі тымі грахамі, якімі хварее бадай што ня ўся моладзь, зьяўляецца ня толькі пажаданым, але нават патрэбным. Разумеецца, што кожны крытычны водгук дае нам магчымасьць, больш сур'ёзна затрымацца над зробленым, і калі ёсьць якія прарэхі, дык пазбавіцца іх на будучыню. Аднэй з гэткіх крытык з'явілася крытыка ў „Беларускім Звоне“, аўтара якой, паваж. „Бацьку“, прасілі-б і надаль пісаць, хаця павінны сьцьвердзіць, што з усімі ягонымі заганамі ня можам згадзіцца, тым болей, што сам аўтар хварэе на супольныя з намі хваробы.

Затое зусім інакшы выгляд мае рэцэнзія, з,явіўшаяся ў нейкай новай гарадзенскай газэце „Вясковы Пралетары“, на закіды якой, напэўна, ніхто і ня адказваў-бы. Аднак мы лічым патрэбным высьвятліць памылковыя закіды, якія зусім бязгрунтоўна робіць гэтая газэта ў артыкуле: „Часопісь беларускае моладзі“.

Аўтар зусім выразна кажа, што моладзь вагаецца на раздарожжы; што мы: моцна загітаваныя п. п. Луцкевічамі, Тарашкевічам і г. д., ня можам задавацца мэтамі аб'еднаньня беларускае моладзі, бо ня маем ні ідэалёгіі, ні лучнасьці з гэтай сярмяжнай сялянскай масай, правадыром якой так хоча быць „Вясковы Пралетары“.

Ня будзем казаць аб тым, на колькі мае на гэта права азначаная газэта; мы ня ведаем тых лю-

дзей, што працуюць на „карысьць народу“, і чым, дзякуючы якой дзейнасьці, прэтэндуюць яны на яго давер‘а. Але апошняе палітычнае выступленьне беларусаў ясна паказала, што ня той трымаець у руках штандар незалежьнасьці і свабоды Бацькаўшчыны, хто шырокае і сьветлае пытаньне незалежнасьці ўводзіць ў вузка партыйныя рамкі; хто заўсёды гатоў далёка адыйсьці ад агульнай справы, абы толькі не пакідаць партыйнай. Балей таго, — ўсім цяпер ясна, што беларускі народ, які може здаў экзамін палітычнай сьпеласьці, — выказаўшы за кім ён пойдзе і якія яго шляхі, не падасьць руку тым, хто адкрыта выступаў проці агульнага жаданьня народу і яго думак.

Гэты факт выяўленьня народай волі, а так сама ўся папярэдняя праца на адраджэнскім шляху беларускай інтэлігэнцыі, даець нам, моладзі, права задавацца думкамі аб‘еднаньня моладзі і далей распрацоўваць сваю ідэолёгію на грунце нацыянальным і соцыяльным, маючы за падставу жыцьцё таго лапатнага люду, да якога так блізка моладзь, скуль яна родам.

Няхай яшчэ цяпер, пад уплывам ненармальных жыцьцёвых абставін, цяжка падыйсьці да шырэйшага асьвятленьня заданьняў моладзі, але шлях наш даўгі і шырокі.

Зроблены пачатак. Вынікі кароткай працы, прыклад бязпрымерных высілкаў нашых адраджэнцаў— даець веру і яшчэ больш узмацоўвае нас ў пераконаньні, што толькі ў лучнасьці, ў суцэльнасьці аднэй мэты,—залог пасьпеху нашай дзейнасьці.

Мы ня прызнаем палітычнай барацьбы, ўсей гэтай сваркі не даючая ніякіх рэальных вынікаў; не жадаем паўтараць чужых, так дарага каштаваўшых памылак, калі ў вузкай аднабокасьці спосабаў робіцца мэтаю. Наша моладзь, як і кожная моладзь ня пазбаўлена многіх памылак, крокаў ня зусім адпаведаючых агульнаму палажэньню рэчаў, але тым

больш каштоўны ўказаньня на бязсэнсоўнасьць і неправідловасьць іх, калі замест усяго гэтага падаецца здаровая і чыстая страва, а ня збан мутнай вады, піць з якога пагражае можа страшэннай хваробай і сьмерцьцю.

Ідэі незалежнасьці і вызваленьня свайго народу, ўсестароннае духовае і матэр'яльнае яго развіцьцё,— вось шляхі беларускай моладзі, наша ідэалёгія, лейт-матыў усей нашай дзейнасьці.

# Францішак Багушэвіч.

## (1840 — 1900)

Аб кім памятка доўга будзе жыць у нашым народзе, дык гэта аб Багушэвічу. Глыбока зачапіў ён народнае няшчасьце, крануў струну сваім смыком і яна голасна, балюча агучэла. Яна загучэла аб волі й нядолі, праўдзе й зьдзеках з аб сваёй сумнай «хатцы» й людзях „тутэйшых.“

Усё, аб чым гучэла струна, падхоплівалася ветрам, разносілася па ўсім абшары Беларусі, абуджаючы ўсіх ад сну, прымушаючы прадзерці вочы і падумаць аб закапанай „праўдзе“, аб магчымым шчасьці. Гук не застаўся пустым без'адказным і вось адклікаюцца другія струны, каторыя гучаць у тон першай і пастунова ўзмацняючыся, прыгажэючы ствырываюць такую гармонію, якая ня сьнілася Мацею Бурачку.

Багушэвіч пачаў працаваць пад уплывам расейскіх і польскіх правадыроў; сялянства і іх ідэалы, толькі бяз тых вузкіх соцыялістычных паглядаў, а ў агульным значэньні гэтага, адбіліся на ўсёй яго творчасьці з такой яскравасьцю й сілай, не дасягненых, амаль што, ніводным з пасьледуючых нашых песьняроў. Наагул уся творчасьць Багушэвіча направулена проціў той соцыяльнай няпраўды, проціў таго зьдзеку, уціску, несправядлівасьці, каторая так нагулялася на карках нашага народу; што тамака, гдзе дух беларуса,— паўстае дух загнанага, закатаванага. І не дарма мы сустракаем у Багушэвіча: „Дурны мужык як варона“— гэтай апофэозе несправядлівасьці, гдзе мужык, рукамі каторага ўсе створана, зроблена і робіцца; каторы зьяўляецца фактычна гаспадаром усяго сьвету, — забіты, цёмны й галодны. Узапраўды можна было ўбачыць так сама тое, што нам дае Багушэвіч у вершу «Скацінная апека», гдзе мужык не чала-

век ужо, а гарэй за быдла. У гэтым не абмяжоўваецца Багушэвіч, ён паказвае бяздоньче, каторае істнуе паміж панамі й мужыкамі, гдзе адныя карыстаюцца ўсімі выгадамі жыцьця, а другія зусім іх пазбаўлены (Бог ня роўна дзеле). І вось як прадстаўнік пазбаўленых, можна сказаць, жыцьця людзей; як перапоўнены той ненавісьцю да паноў, Багушэвіч і выводзіць іх у сваіх творах з самымі благімі рысамі, як людзей для каторых нічога няма сьвятога, асьвячонага („Танцуй, гарцуй пане“), ці навет не лічыць іх за людзей, а за нейкае быдла не зважаючае на сваіх братоў, на маральныя законы людзкіх адносіны („Ахвяра“). Перапоўнены агідай да іх, Багушэвіч ганарыцца тымі заслугамі сялянства перад людзкасьцю, за каторую ліліся кроў і пот народу („Ня чурайся мяне панічок“).

І вось, Багушэвіч рупіцца знайсьці праўду захаваную гдзесьці людзьмі. Ен хоча здабыць магчымасьць сказаць тое слова, каторае-б праўдай назвалі і:

Каб жа тое слова ды людзей з'еднала,
Каб на тое слова ворагаў ня стала,
Каб людцы прызналі братоў ды братамі —
Дзяліліся-б доляй і хлеба шматамі.

Гэта тыя словы — праўда, каторую шукаюць спакон вякоў усе лепшыя людзі ўсіх народаў і часоў. Гэта—ж тыя словы, якія біўся адшукаць сярод людзкіх слоў — яшчэ Хрыстос, пакінуўшы нам вялікую ідэю братняга каханьня.

Не аб гэтым толькі гучэла струна закранутая смыком Рэўкі, не аб гэтым толькі йграла дудка Бурачка, яна іграла й аб нацыянальнай крыўдзе. Першы ясна і голасна заявіў Багушэвіч правы Беларусі, на „пасад між славянамі“. Да гэтага ніхто ня чуў, што сказаў Бурачок у сваёй прадмове да „Дудкі“. Хоць у творах яго няясна выступае гэтая рыска, каторая гаворыць за тое, што Багушэвіч глядзеў на гэта вачмі селяніна, катораму забаламуцілі галаву спрэчкі, адбыўшыяся на нашай зямельцы і каторы лічыў сябе „тутэйшым“. Гэтая „тутэйшасьць“ і выражала ў творах Багушэвіча, а ў прадмове ён кажа, што мову нашу „ўсе людзі цёмныя мужыцкай завуць, а завецца яна «Беларускай» і „што мова нашая ёсьць такая-ж людзкая і панская, як і француская або нямецкая, або іншая якая“. Вось за што павінен памятаць наш народ Бурачка, паклаўшага падмуроўку — фундамэнт беларускаму адраджэньню. Ен таксама мае значэньне й тое, што на ім узгадаваліся нашы сучасныя песьняры, каторыя вынясьлі й разьвілі тыя думкі й ідэі, каторымі поўна творчасьць Багушэвіча.

Яр.

# † Уладзімер Калаур

Неспадзяваная вестка аб сьмерці Уладзіміра Калаўра, разьнеслася з нязвычайнай хуткасьцю і ахапіла сумам сэрца ўсіх, ведаўшых нябошчыка. Гэты трагічны выпадак моцна закрануў сэрца кожнага з моладзі і выклікаў нямала ўсялякіх разважаньняў. Прад кожным паўстала пытаньне разгадаць гэтую таемнасьць сьмерці, бо мала хто мог-бы адважыцца адабраць сябе жыцьцё ў лепшы пэрыяд. Але той факт што прад нябошчыкам было заданьне, якое ён стараўся зьдзейсьніць пад час свайго жыцьця, зусім зьбівае кожнаго з панталыку. Навет блізкім ягоным калегам і тое амаль што няўдалася зразумець нябошчыка, тым балей, што ён не падаваў думкі аб сваіх замерах.

Заўсёды ціхі, сумны, адкліківаючыйся на ўсе патрэбы, Калаур быў добра ведамы сярод беларускае моладзі, ня толькі як добры калега, але як шчыры і энэргічны працоўнік. Захапіўшыся беларускім рухам і паступіўшы ў беларускую гімназію ён адразу распачаў працу, і ўсюды здабыў сабе сымпатыю моладзі. Найлепш выказаў сваю працу Калаур, як мастак-артыста. Гульня К. (Рысь — „У зімовы вечар;" Вар'ят — „Запіскі Вар'ята" — Гогаль; Падарожны — Дзяцька Якуб і інш) была запраўды вечым вартым увагі. Ня мала спадзяваліся ад яго і ў будучыне, але дарэмныя былі гэтыя спадзяваньні. Прачытаўшы 16 сьнежня 1922 г. свой апошні рэфэрат, Калаур спакойна даваў адказы на тыя ці іншыя запытаньні з незразумелых пунктаў свайго рэфэрату, а праз некальні гадзін адабраў жыцьцё выстралам з рэвальвэра. Гэты факт мужнасьці, а разам і ня здольнасць да змаганьня з жыцьцёвым сумам, робяць сьмерць яшчэ болей нявыразнай.

Праўда, характэр моладзі падобны да мора, гдзе ўздымаюцца хвалі і бурляць ня ведаючы выхаду, а душа маладая надта ўражлівая і ўселякае здарэньне пакідае моцны сьлед. Думка аб сьмерці, або мэці жыцьця нашага, часта мучае моладзь і вось аналізыруючы нашае жыцьцё, пад уплывам ягоных варункаў, чалавек даходзіць да таго пераконаньня, што сьмерць зусім ня ёсьць такая страшная рэч, як здаецца на першы пагляд, а ёсьць толькі чымсьці прымірающым, канечным. Калі сустракаюцца на жыцьцёвым шляху перашкоды, альбо калі адчувае няўдачы сваіх жаданьняў і ідэяў; калі ён бача прад сваімі вачмі надта цяжкія, навет немагчымыя на першы пагляд заданьні, тады жыцьцё яго не здавальняе, а зьяўляецца

нейкая пустата. Чалавека ахопліваюць думкі, што жыцьцё—глупства, і ён шукае выхаду з гэтага становішча загібаючы ахвярай сьмерці.

У такім становішчы можа знаходзіўся і Калаур.

На наш пагляд калі і так, дык зроблена вялікая памылка і то адносна не да нас, а да самога сябе. Памятуйма што чалавек родзіцца не для сьмерці, а для жыцьця; не для турмы, а для волі і тады для нас стане ясна мэта жыцьця і тая памылка, якую зрабіў Калаўр.

Аднак ня будзем наракаць на нябошчыка, а аднясёмся да гэтага трагічнага выпадку, як да лекцыі так дарага нам каштаваўшай. Мы, моладзь, не павінны прайсьці міма смуткам, а моцна паставіць сабе поўную мэту жыцьця і змагацца за яе да апошняга.

---

21 сьнежня 1922 г. пасьля адсьпеву ў Сьв.-Траецкай царкве, Калаўра пахавалі на Ефрасіньневых могілках. Пры спушчэньні труны сказаў прамову дырэктар гімназіі п. Трэпка і ад Моладзі калега Дыліс, які зложыў ад моладзі пекны вянок з надпісам на істужцы: „Маладому клёну суму жыцьця нашаго нязмогшаму.“ Пекны вянок быў зложаны і ад VI клясы Віл. Бел. Гімназіі.

Калега.

## Я жадаю песень волі...

Я жадаю песень волі,
Моцных песянь, бы віхор,
Каб ў іх былі зыкі буры,
Каб гудзеў у іх цёмны бор!

Каб грымотамі пяяла,
У іх былая старына,
Каб душа ёй адчувала,
Каб агнём была яна.

Я жадаю песень шчасьця,
Сьветлых песянь бы нябёс,
Каб імглу спаліць ненасьця,
Каб сагрэць чым была лёс.

Каб у іх вера ў ідэалы,
Была зоркай на шляху,
Каб валіліся Ваалы,
Зьвены рваліcь ланцугу.

Я жадаю песьні мілай,
Песянь радасьці, любві,
Каб мне ў долі горкай хілай,
Кветкі-зоркі зацьвілі.

Каб за іх аддаў я душу;
Навет волю, што здабыў,
Каб хоць сьмерць мне пагражала,
Разумеў, што я любіў!

С. Глебаў.

### Памяці друга

Калі віснуць хмары, чорная ноч агартае зямлю, веючы жудой і страхам; бліщчыць маланка знамянуючы пярун, нагадываючы сьвітаньне...

Калі нядоля і зьдзек гуснуць над старонкай, успыхіваюць зарніцамі праўдзівыя сыны яе, зьвястуючы лепшыя часы. Успыхіваюць і гінуць у працы, над разьвіцём творчай моцы роднай зямліцы, каб толькі здабыць яе быцьцё. Надарваўшыся ад працы памірае Цётка, Станішэўская, Ів. Луцкевіч, памірае ў гарачцы Вольга Якуцянка, застрэліваецца Жакоўскі, застрэліваюць Арнольда Дыліса. Скарочываецца жыцьцё Цярэшчанкі, Бурбіса; памірае з голаду малады паэт з Ашмяншчыны і шмат іх імёны. Ты Господзі ве:і-

Яшчэ адзін—Калаўр! Чы скончаны лік ахвяр на Твой аўтар, Бацькаўшчына?!

# ЯКІМ ДЗЕРАЗА.

*
* *

Была ціхая маёвая ноч. У паветры чуваць быў кволы пах распушчанага бёзу. Па нэбі плывалі невялічкія цёмна сін.я хмары, з-за якіх ад часу да часу выплываў срабрысты месяц і асьвячаў сваім слабым сьветам вярхі дрэў Нясьвіжскага парку, з невялічкімі, але разложыстымі кустамі бёзу. У гэтую ноч мне доўга ня спалася. Спачатку я бадзяўся па вуліцам места, але зьвярнуў у бок і пайшоў да парку. Хутка я дабраўся туды і прысеў на аднэй з лавак. Нездалёк ад мяне, на другой лаўцы, сядзеў яшчэ нехта. Кожны раз, як толькі паказваўся месяц, можна было заўважыць яго зьбялелы, але выразны спакойнасьцю твар. Сядзючы, моцна аб чымсь думаў. Часамі павяваў невялічкі ветрык, калыхаў вярхі дрэў парка і ізноў нёсься далей. Здалёк даносіўся ціхі голас салаўя, каторы то ўзмацняўся, то ізноў заціхаў у начной цішы. Усё гэта прыдавала нейкі цудоўны малюнак маёвай ночы і мімавольна навявала на сэрца пачуцьцё радасьці. Аднак незнаёмы непадзеляў яе з агульнай пекнасьцю прыроды. Ен сядзеў на лаўцы, як скамянелы. Незнаёмы мяне зацікавіў. Я падышоў бліжэй, але асоба паказалася зусім незнаёмая. І ўжо хацеў ісьці далей, як раптам ён назваў маё імя. Я падыйшоў бліжэй і тагды толькі пазнаў незнаёмага. Гэта быў мой прыяцель, вучыцяль--Якім Дзераза.

* * *

Якім Дзераза быў адзіночным сынам беднага селяніна. Скончыўшы пачатковую школу, Якім паступіў у Нясьвіжскую вучыцельскую сэмінарыю. З прычыны сваей беднасьці, ўвесь час навучэньня ў сэмінарыі, Якіму прыходзілася пераживаць найгоршыя імгненьні. Але Якіма не страшыла гэта. Упорчывы і акуратны, ён працаваў бязупынна, змагаючыся з беднасьцю, за спосабы жыцьця. Якім загартаваў сябе ў гэтай працы і выйшаў з яе хоць гэтак сама бедным, але чалавекам магутным, з вялікай воляй і цярплівасьцю, гатовы аддаць за свой ідэал, за свае жаданьні ўсё, што меў, навет самое жыцьцё. У гэтай бязупыннай барацьбе ён хутка прыйшоў да вынікаў, што жыцьцё яго і наагул ўсяго сярмяжнага народу ёсьць ненармальным.

Якім верыў, што раней, ці пазьней павінна стацця хвіліна вызваленьня. Пераканаўшыся ў гэтым Дзераза паставіў сабе мэтай працаваць на карысьць вызваленьна свайго народу, на карысьць адраджэньня, свае Бацькаўшчыны і не адступаць ад гэтай думкі ні колі, дзеля чаго ён заўсёды хадзіў засмучаны, а чымсьці парываўся, што ня лёгка было распазнаць па яго твары. Наагул, Дзераза належаў да тыпу людзей, якія лёгка могуць валадаць сабою, навет ў самыя цяжкія хвіліны жыцьця. Апрача гэтага ён меў чуткую душу і любячае сэрца. Будучы ў апошнім клясе сэмінарыі, Дзераза быў рэдактарам нелягальнай вучнёўскай часопісі, энэргічна кіраваў жыцьцём гуртка моладзі і застаўляў яе арыэнтавацца ў сучасным жыцьці. Ен прызываў ачнуцца свой народ ад доўгага сну, і заняць належнае сабе мейсца сярод іншых народаў, і шмат яшчэ зрабіў Дзераза ў гэтай справе. Аднак ў хуткім часе праца яго была спынена: сябра, хутка, апыніўся за турэмнымі кратамі. Якім змушаны быў уцякаць, але аднак ня быў пэўны, што гэта яму ўдасца. У той вечар, калі я сустрэў Якіма ў парку, ён уцёк з места, сюды. У сэрцы Якіма паднялася страшная барацьба. Ен ніяк нямог зразумець за вошта яму на сваей ўласнай зямельцы недаюць жыць вольным, не даюць карыстацца ўсім тым багацьцем прыроды, што нікому не павінна быць забаронена. Якім доўга аб гэтым разважаў. Быццам закамянеўшы, сядзючы на лаўцы, ня чуў, як нездалёк ад яго гаманіла некалькі асоб. Пяялі салаўі, мігацелі на небе зоркі; за сьцежкаю парку бурчала крыніца, калыхаліся ціха распушчаныя дрэвы і распаўсюжывалі ў паветры прыемны пах. Але ўсяго гэтага Якім ня чуў і ня бачыў. Пекныя абразы прыроды не знайшлі сабе водгука ў сэрцы і думках Якіма. Але і што было паміж імі суцольнага? У прыродзе ўсё весялілася, а на сэрцы гэ-

тага чалавека ляжаў цяжкі камень. Гоман прыбліжаўся, але Якім гэтага не заўважваў...

На другі дзень Якім, закаваны ў ланцугі, сядзеў ў турме

* * *

Прайшло два гады ад часу ягонага арышту. За гэты час ў жыцьці Якіма ня было ніякіх зьменаў. Апрача мураваных сьцен ды ланцугоў, бедак нічога ня бачыў. У яго вачох дагараў апошні вагонь і хутка павінен быў пагаснуць. Якім захварэў на сухоты. Ланцугі зьвязвалі ня цела яго, а хутчэй косьці. Дзераза не шкадаваў загубленых маладых гадоў, бо ён загінуў за свой ідэал, па свайму жаданьню. Чужое шчасьце Якіма ні вабіла. Ён жыў радасьцямі і горам свайго народу. Але як жыў гэны народ,—гора, беднота і людзкія зьдзекі былі заўсёды пабач з ім. Пры гэткіх думках, аб сваёй пакрыўджанай старонцы, ў сэрцы Якіма яшчэ зьяўлялася магутная сіла да працы. Яна напаўняла слабыя і высахшыя яго грудзі агнём і імкнулася вырвацца на волю, да родных палёў і ізмучанага народу. О, як хацеў Якім вырвацца ў гэткія мінуты з турмы! Але-ж дарэмна. Свае гарачыя жаданьні Якім мусіў хаваць у ўласным сэрцы...

* * *

Пасьля доўгіх маіх дамаганьяў і перашкод з боку ўлады, я ўрэшцы дабіўся дазволу даведацца Якіма. Раніцою прыйшоў я ў турму і прад'явіўшы свой дазвол, атрымаў вартаўніка дзеля дагляду Якіма. Мы ўвайшлі ў напалову цёмны, даўгі карыдор з сырымі сьцянамі. Слабы сьвет, падаўшы ад невялічкага ваконца, ў канцы карыдора, мала асьвячаў гэныя сьцены з прарэзанымі ў іх дзьвярмі ў камэры.

Крокі гулка раздаваліся пад цёмнымі сводамі і мне здавалася, што я спусьціўся ў нейкі склеп, гдзе замурована цела майго дарагога Якіма. Глыбокі жаль ахапіў мяне.

Прыйшлі. Прад маімі вачыма раптам ўстаў абраз Якімава твара, так мне знаёмага, мілага. Якім лежаў на ложку, адвярнуўшыся да сьцяны. Я думаў, што ён спаў і загадаўшы вартаўніку, каб ён нас пакінуў, пачаў будзіць Якіма. Гэта ты,—раптам ўскочыў ён, гэта ты! Вось добра... Я глянуў ў яго пашыранныя вочы і спалохаўся. Мне здалося, што я бачу нейкага няпрытомнага і незнаёмага мне чалавека.—А што ж гэта я!—ўсхапіўся ізноў Якім.— Сядай браце, ты надта добра зрабіў, што прыйшоў...

— Ведаеш, я не магу вытрываца адзін, не магу... Душа гарыць мая,—дакончыў ён,—голасам поўным суму і жалю. Я пачаў яго супакойваць, а тым часам прыглядаўся да яго твару. — Што? я зьмеріўся? — адказаў Якім. — Ты кажаш, што...., а-а-а гэта ты, мусіць аб маім выгляду, ўсь-

мяхнуўся ён. Можа быць, ня ведаю?! Ну, кажы хутчэй ўсхапіўся ён,—кажы як жывуць людзі? як сьвеціць сонейка? аб чым пяюць птушкі? Мо ўжо, што небудзь зьмянілася.—Але зьмянілася, Якім, толькі ня ўсё, — Так сама жартуе сонейка, так сама сьмяецца яно сваімі праменьнямі, але птушкі ня ўсе тыя. Ня ведаеш ты мусіць і таго што маладое пакаленьне хутка вешчым клёкатам дасьць ведаць, што жыва Беларусь!—Так-так, — ціха адказаў Якім. Значыцца лятуць маладыя арлы. Ой, братка, ведаеш цяжка мне, цяжка! Не даюць мне супакою мае крылатыя думкі, ня могуць прабіцца яны праз гэтыя шэрыя тоўстыя сьцепы і вось, ўсе тутка. Яны запоўнілі гэтую цесную камэру. Нямя мне паветра, няма чым дыхаць. О, думкі, мае крылатыя думкі! калі-ж пакінеце вы церабіць маю душу, маё атручанае сухотамі цела? Чаму ня ляціцё вы туды: гдзе сонейка, гдзе паглядае ясны дзень. Ага! я ведаю, вы палохаецеся тых ланцугоў, што здавілі лясы і палі, што ня пускаюць на волю звонкіх лікуючых песянь, што не даюць дыхнуць майму гаротнаму народу.

Ой, цяжка мне, цяжка! Сонца, магутнае сонца, ты даеш жыцьцё ўсім! Ты адвечнае вялікае блага! Дык чаму-ж ты ня растопіш сваімі гарачымі праменьнямі зьвены ланцугу? Чаму ня дасі ты яркай бліскучай песьні таму, хто мучыцца ў цемры глухіх тропак жыцьця. Я сьмяюся над табою сонца! Ты маленькае бязсільнае сонца! Я слабае і атручанае сухотамі цела; ў мільёны разоў сільнейшае за цябе, бо я маю душу! бо душа мая родзіць тыя праменьні — думкі, што зьнішчаць гаротныя кайданы, што запануюць па роднаму краю грознымі водгукамі перамогі. Сонца! Я сільнейшы за цябе, бо я маю думкі, крылатыя думкі! І зажгуць яны маладыя клёны, і высока ўстануць яны. Тагды пранясецца покліч! — Гэй, вы, хто змучаны працай! Гэй, вы, каму ні хапае сьвета! Гэй, вы, хто ні мае маладой вясновай любві, глядзіце! Мы запаліваем факел, вялікі факел праўды і сьвету. І вы бачыце, як ў яркім крывавым сьвеце блішчаць нашыя маладыя ствалы. Вы бачыце, што мы гарым, бо мы жадаем сказаць слова...

Я ўсхамянуўся і схапіў Якіма. Твар яго зачырванеў пунцавымі плямамі. Вочы страшэнна пашырыліся і ён як-бы вырас, з змучанага слабога чалавека, ў гэты магутны клён. Здавалася, што ён ужо бачыў гэны сьвет адраджэньня.

Здавалася, што варта яму клікнуць покліч і распадуцца сырыя сьцены і заблішчаць праменьні сьвітаньня... Апошнія слова!—Раптам ўскрыкнуў Якім. Алая струйка крыві пацякла з вуснаў Якіма. Ен памалу пачаў схіляцца на ложка. Яшчэ хвіліна і душа Якіма назаўсёды разьвіталась з тым, на што ён аддаў сваё маладое жыцьцё.

**Гарасім.**

# Песьні Нёмана.

Гэй, сябры, з бандурай звонкай!
Песьня льлецца бы лягчэй
З ёй уцехай, хлопца жонкай
Гора нішчыцца хутчэй.
Струны вешчыя зазвонюць,
Гукі ўздымуцца ляцець,
А аб чым яны гамонюць,
Гэта сэрцу зразумець.

---

У цёмнай ночы Нёман сьвішча,
Хвалі зычна грукацяць,
Бы магутны кешта ішча
Нешта хоча адказаць.
Быццам нейкія кайданы
Паапуталі яго,
І дрыжыць ён зьнэважаны
Увесь ад гневу сваяго.
Эх, калісь ня то бывала,
Нёман любы, вольны быў!
Эх, ды згінула, прапала,
Волі Нёман бы ня сьніў!
Гэй чалноў крывіцкіх лаву,
Не насіць ужо яму,
Не пяяць ім болей славу, —
Сыны, сьпяць у цяжкім сну.

---

Ціха брацьця! ці чуеш ты гоман?
Ці ты чуеш, як хвалюецца Нёман?
Хвалі сівыя с плёскам плывуць
Хвалі нейкія песьні пяюць.

---

Пяюць хвалі сядыя пра славу,
Пра былую вясну крывічоў,
Пра чалноў іх разгоністых лаву
Уторацць сумна ім гукі лясоў.
Гэй, тут згода між нас панавала,
Ці то слава, ці гора было,
Толькі-ж недзе яна запрапала,
І нібы віхрам кудысь панясло.
Гэй, на бітву бывала як выйдзем,
Толькі звон ад мячоў грукаціць,
Усё за славу, за волю Краіны
Покліч грозны, магутны ляціць.

І ламілась варожая сіла,
Славу нёс я на хвалях сваіх,
І грымела. — Пашану здабыла,
Апынілась ян -ж на чужых.

---

Вольны Нёман, што-сь замоўк ты?
Песьні дзе-ж твае пяюць?
Гдзе-ж твой дух магутны вольны?
Пяі, бо ўзноў сыны заснуць!
Хібо-ж ты стары нам бацька
Сілы варажай ні біў?
І ў ланцуг, як мы закуты,
І пабіты супачыў.
Не, я сэрцам чуткім чую,
Што ня сьпіш ты, Нёман мой!
Што мы зможам сілу злую
Пад напеў зямлі раднай.
Я ўжо бачу дзень вясновы,
Славы нашай і тваёй,
Разам ськівем мы аковы,
Нёман вольны, Нёман мой!
Льлюцца песьні, песьні льюцца
Вольных Нёмана сыноў,
Трэльлю звонкаю нясуцца
Між зялёных курганоў.
Славу Бацькаўшчыне любой,
Крывічанам, як ня пець?
Кліча сэрца ў бой са згубай,
Гэй, мы зможама здалець,
Гэй, на хлеб адкажэм хлебэм,
А на меч знайдзем мячы,
Бо пад нашым, родным небам
Есьць ўдалые крывічы.

---

Так шапочуць гарачыя вусны,
Бо праз сон успамінаючы што-сь,
І ўсё коцяцца, коцяцца сьлёзы
Эх, ня сумуй брат, ды гора выносъ!
Толькі ведай, што некалі Нёман,
У ночы ўзбурыцца клікамі хваль,
Гневам будзе іх вогністы гоман,
У даль нясучыся, ў цёмную даль.
І грымоты яму адгукнуцца
Сьцебануць бліскавіцай, між хмар
Зразумееш, што час ужо імкнуцца
Што ўпаў радзімы штандар.

І як покліч пачуеш ты гэны,
Хутка схопіш аружжа ў далонь,
І пажар загарыцца страшэнны,
За сьвятую, радную пагонь.
Дык жа ведай, што некалі Нёман,
У ночы збурыцца покліччам хваль,
Гневам будзе іх вогністы гоман
Праясьніцца таёмнае даль.

С. Глебау.

# Маладое Жыцьцё.

Ад шчырага сэрца усім тым,
хто працуе у часопісі беларускае моладзі.

Хто да зор гаманіць,
Хто ідзе і гудзіць?
—Маладое жыцьцё!..
А хто здольны сьпяваць,
Бяз прынукі скакаць?
—Маладое жыцьцё!..

Хто ў бядзе не маўчыць,
Хто пра волю крычыць?
—Маладод жыцьцё!..
А хто родны садок
Даглядзіць, мой браток?
—Маладое жыцьцё!..

Дык шануй без маны
Маладыя званы —
Блізкі сэрцу іх гук!
Ды ўжо досі стагнаць,
Век-вяком жабраваць...
Працы чуецца рук:

Дык шануй, як сваё,
Маладое жыцьцё —
Прыйдзе ўпын і на нас...
Школы скрозь адчыняй,
Дзетак нашых склікай —
У школу Гэлька і Влас!

*М Запольскі.*

Serbi, 1922.

# Сьвяточныя успаміны.

Я сяджу ў вагоне 3-й клясы і руплюся здабыць лепшае мейсца. Цесна і вельмі сьцюдзена, але я рады, што адваяваў сядзеньне і спаткаў знаёмых.

Апошні электрычны ліхтар блыснуў ў вакне і сталася зусім цёмна. Запальваюць сьвечку і дастаю газэты. Сусед К. нахіляецца да мяне і шэпча.

— Хочаце газэту з Коўна? Самая „навейшая!“

Прабегаю вачамі, але няма ніводнага радка годнага ўвагі. Крыху нудзіць ад урадовага патрыятызму. Ня хочучы зачапіць нацыянальнае гордасьці К., літвамана да пятак, ўважна чытаю абвесткі, аб аўкцыёне па даставу войску і зварочваю газэту. К. захоўвае, напісаны на твары, выраз сваё лепшасьці ад мяне. Але ён слаўны чалавек, часта бывае карысны і я ў сабе дарую яму гэта.

Насупроць мяне сядзяць два жаўняры едучыя на сьвядкі дамоў і чопорная, пажылая асоба, ў выліняўшэй шляпцы, але з пышным выглядам,—мабыць засьцянковая шляхцянка. Рэшта віленскія спэкулянты. Заўтра серада і ў Д. вялікі прадколядны рынак.

Я ўглыбляюсь ў газэту, але гутарка навокал робіцца больш жывой і цікаўнейшай. Як і ўсюды, дзякуючы прайшоўшым выбарам ў Варшаўскі Сойм, яна войстра палітычна. Хоць і ня выразны будучы лёс нашага заплутанага Сярэдня-Літоўскага жыцьця, але йдзе гарачы дыспут і ягоныя ўчасьнікі маюць зусім пеўныя пагляды.

Як гэта ні дзіўна, але шэрая не адукаваная, напалову галодная і дэмаралізаваная вайною масса, з захопляньнем любіць палітыкаваць. У гутарку ўмешваюцца жаўнеры. Прыводзяць прыклады адносін да іх тутэйшага і беларускага жыхарства, ілюструючы яго дзікасьць. Шчырыя каталікі, яны не шкадуюць выразаў для духаўнікоў, калі тыя не „разумеюць“ вялікай гістарычнай місыі Польшчы на крэсах. У сваей заўзятасьці яны просты.

Я не вытрымліваю і ўмешваюся ў гутарку, даўно перайшоўшую у гарачую спрэчку:

— Чы быў пан ў Польшчы ў 1918 г.?

— Але, быў.

— А чы добра вы, палякі, зрабілі тады з немцамі?

Пры гэтым ўспаміне аб сьвятлейшым моманце народнага гэраізму жаўнер ўспыхвае энтузіязмам і з пыхай кідае

— „A po cóż on tu...?!“

Сярод прысутных ўзрыў сьмеху. Жаўнер зьдзіўлена азіраецца. Гутарка войстра абрываецца...

Станцыя I. Знаёмы зьбірае вузлы з рэчамі на Каляды

і вылазіць. Мне трэба далей. Думкі нясуцца назад дамоў, гдзе таксама рыхтуюцца да сьвята. Прыпамінаюцца папярэднія гады, калі і я прыймаў удзел у прадсьвятачным мітусеньню, а потым карыстаўся поўнасьцю, сьвяточным адпачынкам.

Але гандаль ня ведае адпачынку ды перад сьвятам найбольш працы. Крыху маркотна, але і на гэта няма часу.

**В. Г—н.**

# Ігрышча.

Вось гуляюць хлопцы нашы,
Таўкуць мак, як камары,
Як у летні жар на пашы
Ад гілю бегаюць валы.
Круцяць дзевак ва ўсе пары,
На паветры іх нясуць;
Аж пазьменьваюцца твары,
Як кавальскі мех сапуць.
Парашпільваюць каўнеры,
Грудзі голыя ўпярод;
Вось гуляюць кавалеры,
Аж зьдзіўляецца народ.
Ужо гулякі, дык гулякі,
Такіх уперад ня было.
А растуць, ды як ваякі
Усё больш запружваюць сяло.
Ну й гулякі!.. дый ня дзіва
Двух музыкаў калі ўтнуць,
А гуляка рад, шчасьлівы,
Самы ногі ў скок бягуць.
Адзін рэжа на гармоні,
Другі ў скрыпку калупне,
Дяк на гулі яго гоне,
Як цябе хто туды пхне.
Усякі хоча пад гумораи,
Сябе болей паказаць,
І танцуюць, пяюць хорам,
У тахт, нагамі тупацяць.
А дзяўчата! Вось дзяўчата,
Абы толькі ім зайграў,
Наплыве іх поўна хата,
Як мятлой іх хто нагнаў.
А як пойдуць яны ў скокі, —
Проста люба пазіраць;
Пабяруцца яшчэ ў бокі, —

Дый з прыпеўкамі гулянць.
Аж хвальбаны падлятаюць
Ды калені зіхацяць,
Ато-ж лоўка выбіваюць,
Аж падошаўкі трашчаць!
І махне ў тахт галавою,
То рукамі разьвядзе,
Крыху ўхнэ, бы совою,
Вось ігрышча калі йдзе!

# Маленькі фельлетон.

## Нязвычайнае здарэньне анёлка.

Дайшлі пачуткі да самага неба аб тым, што абуджаецца беларуская моладзь.

Трэба сказаць, што, мы анёлкі вельмі цікавімся ўсімі справамі моладзі і вось на сходзе анёлаў, вырашылі паслаць свайго прадстаўніка, каб выказаць сваё спачуваньне маладым беларусам.

Кінулі жэрабя і выбар прыпаў на мяне. Тады я ўзяў парасон і пачаў спушчацца на зямлю.

Доўга калясіў я па небі няведаючы гдзе застанавіцца. Нарэшцы запытаўся я пралетаўшых птушак аб мейсцы знахаджэньні Беларусі; але адныя паказывалі направа, другія налева.

Ну, запраўды, што вы зрабілі-б на маім мейсцы?—Яны казалі сумную праўду. Як з аднаго, так і з другога боку чуліся нейкія енкі, што яшчэ больш мяне дзівіла. Але-ж я ня дурны! Не здарма я карыстаўся гэтакім уплывам на небі; дый не здарма анёлкі, выпраўляючы на землю, спадзяваліся на маю ўцямлівась.—„Ня туды, ня сюды"—парашыў я і спусьціўся каля самай мяжы.

Аднак дзікія крыкі:—Буржуй, гані яго!—змусілі мяне хутчэй разьвярнуць свой парасон і зьняцца ў праціўлежны бок.

Будучы дужа зморваны, я праляцеў яшчэ нейкую адлежнасьць і спусьціўся на страху першага папаўшагася будынку.

Бурныя пагрозы выключэньнем з гімназіі даносіліся адтуль да маіх вушэй, але я,—цікун і, пачаў адразу наводзіць спраўкі.

Хутка я даведаўся ад праходзячага вучня, што гэта ёсьць Беларуская Радашкоўская Гімназія. Ен пачаў мне з вялікай прыемнасьцю апавядаць аб культурна-прасьветнай працы, якую вёў дагэтуль вучнёўскі гурток. Казаў

таксама аб тым, як стварылася бібліатэка, як налажваліся вечарыны і шмат чаго іншага. Як тут раптам знайшоўся чалавек, якому ўсё гэта было недаўспадобы.

Паміж тым з будынку данёсься загадны голас: „Мы, Вярні—Галава, сябра „союза русского народа“ ў прошлым, дзелавод у цяперашнім і дырэктар у будучым загадываем: пакінуць, разыйсьціся і супакоіцца“.

Баючыся, каб гэты Вярні — Галава не зьвярнуў свой гнеў на мяне (ад такіх людзей можна ўсяго спадзевацца), я па добрай волі разьвярнуў парасон і паляцеў далей.

Яшчэ на небі я чуў аб часопісі беларускае моладзі і парашыў падзяліцца з рэдакцыяй гэткім дзівам. Тутка мяне шчыра сустрэлі і прасілі ў будучыне не забывацца дастаўкай навін. Разьвітаўшыся я абяцаў дзяліцца заўсёды з рэдакцыяй „М. Ж.“, такімі-ж нязвычайнымі навінамі, калі толькі яны здарацца.

Запісаў **Бім.**

# Крышку вяселага.

Прыехаў жаўнер на вёску ў вотпуск.

А малы яго брат і пытаецца:

—„Чаму гэта ў жаўняроў на рукавох гузікі прышыты?

—Эх, ты, дурны—адказывае брат яму, гэта-ж каб нос рукавом не выціралі.

* * *

—Міхась, хадзі малацiць да мяне. Адробіш таго рубля, што пазычыў каля карчмы.

—Я, малаціць! А каб ты не дачакаў, калі я падыму руку на сьвяты хлеб.

* * *

Шоў падарожны праз сяло ў той момант, калі мяняецца месяц: неба чыстае, ўсюды зоркі, а месяц адразу сьцямнеў.

— Што гэта сталася, што месяц прападае?—спытаўся падарожны нейкага чалавека.

— Я ня тутэйшы, адказаў той, вунь сідзяць людзі, спытайцеся ў іх.

* * *

— Гэй, хлопча, чаму ў вас такія маленькія порцыі?

— А вы пакаштуйце, можа і гэтага не зьясьцё.

* * *

— А што Пётра ня выбралі цябе старшынёй?

— Не, ведаце. Неяк дзіўна выйшла. І я хацеў быць старшыней і жонка мая хацела, толькі адна грамада не хацела, таму нічога й нявыйшла.

# ХРОНІКА.

## Арганізацыя моладзі.

Група віленскае беларускае моладзі, жадаючы стварэньня Цантральнага Беларускага Гуртка Моладзі, падала на зацьверджаньне ўладзе статут.

## У Віленскай Беларускай Гімназіі.

✦ Вучнямі старэйшых клясаў гімназіі заснаваны гурток, які распачаў сваю працу дужа энэргічна. Налажваецца чытаньне рэфэратаў, пастаноўка вучнёўскіх вечарынак, а таксама арганізаваўся струнны аркестр. Малодшыя клясы гімназіі выдаюць дзіцячую часопісь „Усход".

✦ У часе свайго бываньня ў Вільні, Мітрапаліт праваслаўнае царквы ў Польшчы Юры, даведаў Беларускую гімназію. Мітрапаліта сустрэлі ў салі гімназіі вучні, дырэктар і сябра бацькоўскага камітэту.

✦ 19 лістапада г. г. вучнямі малодшых клясаў гімназіі пад кіраўніцтвам вучыцелькі п. Альшэўскай быў згуляны спэктакль. Гулялі казку Андэрсона „Гэнзель і Грэта".

Багатая пастаноўка і нязвычайна добрая гульня маладых артыстаў-ак захоплівала глядзельнікаў. Гэта, бадай што першы дзіцячы спэктакль, які прайшоў з такім пасьпехам і апрацоўкай ролей. Ен выявіў беларускаму грамадзянству тыя здольнасьці да мастацтва, якія крыюцца сярод дзяцей. Трэба толькі даць добрую ўзгадаваўчую паветру, каб гэтыя нараджаючыяся таленты не загінулі для беларускага мастацтва.

✦ У сярэдзіне студзеня ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9) адбудзецца грандыёзны спэктакль-вечар-лётэрэя. Увесь збор цаступае на карысьць незаможных вучняў гімназіі. Пасьля праграмы скокі пад гукі духовага аркестру да раніцы. Багаты буфэт, канфэці, сэрпантын і інш. гульні. „Ж ы в ы а с ё л"!

## Беларускія скаўты.

Надойчы, пасьля доўгіх жаданьняў нашае моладзі заснаваньня скаўтаў, была створана I Беларуская дружына скаўтаў пры Віленскай Бел. Гімназіі. За справу арганізацыі ўзяўся, добра разумеючы яе, вуч. VIII кл. Прохараў.

## Падзяка.

I-ая дружына беларускіх скаўтаў пры Віл. Беларускай Гімназіі, заснаваных 10. XII. пр. г., выказвае шчырую падзяку вучыцелю п. Зенкевічу, за яго ахвяру 100.000 марак на справы арганізацыі. Спадзяёмся, што наша арганізацыя, якая шмат патрабуе працы і дапамогі з боку, атрымае гэтую дапамогу і пашырыць скаўцта ў Заходняй Беларусі.

Дапамагчы нашаму адраджэньню выхоўваючы з моладзі здаровых загартаваных у працы грамадзян, вось галоўнае і важнае заданьне сучаснага беларускага грамадзянства. Мы пэўныя, што за прыкладам пана Зянкевіча пойдуць ўсе грамадзяне, якія чуюцца беларусамі, чуюцца часткам таго народу; хто жадае бачыць нашу Бацькаўшчыну вольнай і незалежнай.

Дружыньнік.

## Як гэта разумець?

У Радашкоўскай Беларускай Гімназіі сярод вучняў арганізаваўся гурток моладзі, які дзякуючы сваёй дзейнасьці мае ўжо сваю бібліатэку, ладзіць вечарыны, чытае рэфэраты і інш. Здавалася-б, што кіраўнікі гімназіі павінны былі-б заапекавацца і заахвоціць да большай дзейнасьці і арганізаванасьці, а тымчасам „вядомы“ Тодар Вярнікоўскі пачаў з таго, што стаў руйнаваць ужо створанае вучнямі і пагражаў звальненьнем з гімназіі да тых часоў, пакуль вучні не адкінуліся ад сваёй маладой арганізацыі. Як нам ведама гэты Вярнікоўскі займае ў гімназіі пасаду дзелавода.

Дык што робіць Педагогічная Рада? І ці ведае аб гэтым Цэнтральная Беларуская Школьная Рада?

„Наша Будучына“.

## З беларускага друку.

Новая кніжка „Беларусь“—Л. Родзевіча.

„Наш шлях“—часопісь белар. студэнцтва ў Вільні.

„Наша Будучына“—новая беларуская газэта з багатым зьместам і некалькімі аддзеламі. Паміж іншым шмат мейсца адводзіцца пытаньням беларускае моладзі.

Беларускі Календар на 1923 год. Зьмешчаны біаграфіі ўсіх беларускіх паслоў і іх партрэты.

Уса вышэйазначаныя друкі можна купляць у беларускай кнігарні —Завальная вул. 7.

---

# Жыцьцё беларускае моладзі за межамі.

**Латвія.** Дзякуючы спагадным адносінам да беларускага руху латвійскага ураду, на невялічкім кавалачку беларускае тэрыторыі дужа шыбка пачала ўздымацца прасьвета. Стварылася шмат беларускіх школ. Асяродак беларускае думкі ў Латвіі з'яўляецца Дзьвінск. Тут істнуюць Беларуская Гімназія, Беларускія Вучыцельскія Курсы, Сельска-гаспадарчая Школа і іншыя беларускія арганізацыі

Знаходзіцца Беларуская Гімназія і ў Люцыне. Пры гімназіях арганізаваны вучнеўскія гурткі. На жаль, покульшто няма ніводнага друкаванага беларускага воргану, які яскрава высьвятліў-бы жыцьцё моладзі над Латвіяй.

**Чэхія.** Ня маючы магчымасьці атрымліваць вышэйшую адукацыю ў сябе на Бацькаўшчыне, шмат белар. моладзі змушана была эмігрыраваць замежы.

Паміж іншым, шмат нашае моладзі прыгарнула да сябе Прага. Тут знаходзіцца да 60 студэнтаў беларусаў, моцна зарганізаваных ў гурток імяні „Францішка Скарыны". У прэзыдыўм гуртка ўваходзяць паміж іншым, вядомыя сярод віленскае моладзі—беларусы.

**Савецкая Беларусь.** Бязумоўна, нідзе так высака не стаіць беларускі рух, як у Савецкай Беларусі з сталіцай Менскам. Тут добра зарганізавана беларуская моладь. Асабліва добра стаяць: тэатральная і школьная справы. „Дзяржаўны беларускі тэатр" дае шмат вядомых сусьветных рэчаў, ўзбагачваючы нашу літэратуру.

Існуе шмат пачатковых, сярэдніх і вышэйшых школ. З вышэйшых знаходзяцца: Беларускі Унівэрсытэт, Палітэхнікум, Сельска-Гаспадарчы Тэхнікум і інш.

**Расея.** Беларускія студэнты ў Маскве добра зарганізаваны і выдаюць часопісь. „Маладая Беларусь".

## Ліст у Рэдакцыю.

Да Беларускае Моладзі.

Дарагія сябры і сяброўкі!

Мы хочам разьдзяліць з вамі жаль і пачуцьцё к пакойнаму калегу нашаму Уладзімеру Калаўру, можа ад гэтага лягчэй будзе перажыць і вам і нам апошні выпадак. Бо ня можна выказаць, ня можна апісаць таго ўражаньня, якое зрабіў ён на нас, тым больш калі ўспомнім апошнія ягоныя славы: „Бог ведае калі спаткаемся...

Ня хочацца нічога рабіць, ня хочацца сьвяткаваць сьвята пры думцы аб раптоўнай, так трагічнай сьмерці яго. Усякага з нас нечспадзяваная вестка гэта зразіла як громам, асабліва-ж таго, хто так блізка знаў В Калаўра.

Ня верыцца, што Калаўр. гэты добры калега, гэты шчыры працаўнік дзеля Беларускае справы, гэты мастак-драматург, магчыма зорка беларускага мастацтва ў будучыне, загас як зорка, завянуў як краска, залатое сэрца яго перастала біцца...

Сьмерць яго зрабіла вялікую незабытую страту. Беларускае грамадзянства страціла ў ім шчырага працаўнік а драджэньня, добрага мастака, мы-ж апрача гэтага страцілі ім аднаго з найлепшых калегаў.

Няхай-жа будзе вечная памяць па ім між нас, а Бог няхай супакоіць душу яго, якой было, відаць, цесна неспакойна на зямлі.

Ад шчырага сэрца разьдзяляем жальбу па Валодзьку з бацькамі і ўсімі тымі, хто быў сьведкам гэтага трагічнага выпадку, і спачуваем ім у адчуваньні так вялікай страты.

З паважаньнем:

Беларускія студэнты ў Празе.

## Свая пошта.

Белар. Вучн. Гуртку ў Радашковічах. Грошы высланыя на нашу часопісь 4000 рэдакцыя атрымала і спадзяецца, што за вашым прыкладам пойдуць ўсе інщыя беларускія гурткі, каб падтрымаць наш, адзіны пакульшто, орган беларускае моладзі. Шчырая вам падзяка калегі! Часопісь высылаем. Прысылайце матар'ял.

Ляхавічы. С. Сянкевічу. Грошы атрымалі. Папярэднія нумары выслалі. Часопісь высылаем і надаль. Шукайце падпішчыкаў сярод моладзі.

Навагрудзкаму бел. вуч. гуртку. Інфармацыі, якія вы прасілі прыслаць праз калегу Г. высылаем.

Прага. В. Грышкевічу і Каржу. Рэдакцыя М. Ж. просіць калегаў прыслаць належачыя грошы. Прысылайце весткі аб вашым жыцьці і матэр'ялы.

*Рэдакцыя просіць паважаных чытачоў прысылаць грошы за часопісь М. Ж.*

Рэдактар-Выдавец **Аляксандар Пусько.**

**Цана асобнага нумару 500 марок.**

Адрэс Рэдакцыі: **Wilno, ul. Ostrobramska Nr. 9,**

Друкарня „ДРУК", Субач 2.